# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (831) ГОД XVII БЕЛАСТОК 30 СТУДЗЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## НОВЫ ЭТАП

У большасці аддзелаў ужо закончылася справаздачна-выбарная кампанія ў гуртках Беларускага таварыства. Прычынілася яна да ўпарадкавання дакументацыі, да арганізацыйнага ўмацавання гурткоў, да больш планавай іх працы, да выяўлення новых актывістаў, якія ўвайшлі ў склад праўлення, да павелічэння колькасці членаў, да прааналізавання дасягненняў і недахопаў сваёй працы, да пашырэння мастацкай самадзейнасці, якая так патрэбна на нашых вёсках. На гэтых сходах былі ўручаны членам БГКТ новыя легітымацыі і найлепшыя, найбольш актыўныя людзі былі выбраны дэлегатамі на справаздачна-выбарныя канферэнцыі аддзелаў.

Гэты новы перыяд у падрыхтоўцы VII з'езду БГКТ — перыяд канферэнцыяў запачаткуецца 30-га студзеня справаздачна-выбарнай канферэнцыяй сямяціцкага аддзела, якая адбудзецца ў Мілейчыцах.

Вельмі важнай справай з'яўляецца тое, каб канферэнцыі былі добра падрыхтаваны, каб справаздачны даклад і дыскусія паказалі, што дапамагае, а што перашкаджае ў разгортванні культурна-асветнай працы, а перш за ўсё мастацкай самадзейнасці, каб канферэнцыі сталі мабілізуючай сілай да яшчэ больш плённай дзейнасці БГКТ, каб выпрацавалі яны яшчэ лепшыя напрамкі працы аддзелаў, каб былі на іх выбраны новыя праўленні з самаахвярных людзей, людзей, якія з пачуццём адказнасці за лёсы нашай арганізацыі будуць уключацца ў статутовую дзейнасць БГКТ, выкарыстоўваючы ў ёй указанні VI з'езду ПАРП і, прычыняючыся да яшчэ большай інтэграцыі сваіх асяроддзяў, каб узброілі дэлегатаў жаданнем яшчэ больш працаваць на карысць свайго асяроддзя, на карысць БГКТ, а гэта значыць на славу нашай народнай Айчыны.



*На новай сцэне ў новым доме культуры школьны хор стараўся спяваць асабліва прыгожа.*




На ўрачыстасць 8 студзеня 1972 года сышліся не толькі амаль усе дарослыя і моладзь вёскі Вілянова, але і з яе ваколіц. Зала, разлічаная на 200 асоб, змясціла ўдвая больш гледачоў. І гэты мнагалюдны сход не быў выпадковы. Прыгранічнае сяло Вілянова, што знаходзіцца ў адлеглым куточку Сямяціцкага павету, у гэты снежысты завейкавы дзень святкавала завяршэнне свае чатырохгадовай супольнай працы пры пабудове ў сваім сяле грамадскім чынам сельскага дома культуры. У ім абсталяваны пасучаснаму прасторная высокая глядзельная зала з добрай сцэнай і кабінай для кінаапаратуры, дзве залы для працы мастацкіх гурткоў і мясцовых маладзёжных і грамадскіх арганізацый, выставак, клуб селяніна, прасторнае фае.

Урачыстасць адкрывае Анатоль Мартыновіч — кіраўнік школы, старшыня гуртка БГКТ у Вілянове. Ён — галоўны ініцыятар, неадступны арганізатар, ахвярны будаўнік дома культуры. У сваёй кароценькай прамове напамінае прысутным, што прыйшоўся гэты аб'ект віляноўцам нялёгка. Унеслі сваю ахвярную працу ў будову дарослыя, моладзь і нават школьнікі. Працавалі члены падставовай партыйнай арганізацыі, гуртка БГКТ, кола ЗМВ, несарганізаваныя. Некаторыя гаспадары ездзілі па 30 разоў па будаўнічыя матэрыялы. Будове аддавалі кожную сваю вольную хвіліну, святы, а ў большай патрэбе — нават адрываліся ад палявых работ. Гэты грамадскі чын склаў суму 450 тысяч злотых, 300 тысяч дадала дзяржава, і дом, утульны і належным чынам абсталяваны, сёння павітаў сваіх будаўнікоў.

«Паўстаў жаданы і патрэбны дом культуры, — падкрэслівае ў сваім выступленні старшыня Прэзідыума ПРН у Сямяцічах Уладзімір Іванюк. — 177 гаспадароў вёскі пабуда-

*(Працяг на стар. 3)*

## БГКТ хроніка

■ 8-га студзеня члены гуртка БГКТ у Катлах (Бельскі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніцы Любы Карыцкай выступаў у сваёй вёсцы з двума п'есамі «Люцынка-інжынерыха» і «10 гектараў».

■ 11-га студзеня адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Трашчотках. На сходзе ў члены БГКТ было прынята 8 чалавек. Пасля справаздачы і дыскусіі прысутныя выбралі новае праўленне гуртка ў складзе: Мікалай Іванюк — старшыня (ён таксама як дэлегат гуртка паедзе ў Бельск на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела), Мікалай Салаўянюк — сакратар і Уладзімір Нікалаюк — скарбнік.

■ Прэзідыум сямяціцкага аддзела ў Мілейчыцах 11-га студзеня абмяркоўваў справаздачу аб дзейнасці праўлення ў 1971 годзе і зацвердзіў план працы праўлення і прэзідыума на 1972 год. Гэтыя матэрыялы прадставілі старшыня і сакратар аддзела Анатоль Мартыновіч і Міхась Вішанка. У пасяджэнні прэзідыума прынялі ўдзел прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Тадэуш Шынкоўскі, з ВРН-у Мікалай Куц і з ГП БГКТ Кастусь Хлябіч.

■ Прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку (11.I.72 г.) прыняў справаздачу аб дзейнасці праўлення за 1971 год, якую прадставіла Зося Стаськевіч — сакратар аддзела. Зацверджаны быў таксама план працы на гэты год і абмеркаваны арганізацыйныя справы, звязаныя з навагодняй ёлкай для дзяцей, бацькі якіх залічаюцца да актыву аддзела. Затым прэзідыум разгледзеў і прыняў больш 20-ці студэнтаў у рады БГКТ. Прэзідыум пастанавіў таксама скрэсліць тых членаў, якія ўжо больш двух год не праяўляюць зацікаўлення да дзейнасці БГКТ і не аплочваюць членскіх складчын.

■ 13-га студзеня выдавецкая камісія ГП БГКТ у павестцы пасяджэння мела наступныя пункты: I) справаздача аб працы камісіі ў бягучай кадэнцыі; 2) абмяркоўка выдадзеных кніжак і абмяркоўка плана календара на 1973 год, які прадставіў старшыня камісіі Георгі Валкавыцкі.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 13-га студзеня арганізаваў традыцыйную вечарыну. Іграла эстрада ГП «Лявоніха», Зося Стаськевіч чытала фальклорныя вершы беларускіх пісьменнікаў.

■ На пасяджэнні этнаграфічнай камісіі ГП (14.I.1972 г.) яе старшыня Уладзімір Гацута зрабіў справаздачу аб працы камісіі ў гэтай кадэнцыі і прадставіў план працы на 1972 год.

■ 15-га студзеня ў гарадскім аддзеле БГКТ адбылася студэнцкая вечарына. Распачалася яна спатканнем з журналістам «Нівы» Аляксеем Карпюком, які правёў гутарку аб удзеле студэнтаў у працы БГКТ. Старшыня студэнцкай рады клуба Янка Кірызюк расказаў прысутным аб працы гуртка БГКТ у яго роднай вёсцы Крывяцічы. Пасля сакратар аддзела Зося Стаськевіч гаварыла аб мерапрыемствах для студэнтаў, а старшыня ГП Міхась Хмялеўскі ўручыў легітымацыі БГКТ больш як 20-ці студэнтам. Танцы працягваліся да поўначы.

■ Варшаўскі аддзел БГКТ арганізаваў 15-га студзеня ў Палацы культуры і навукі карнавальную вечарыну.

(мс)

## РЫГОРУ ШЫРМЕ—80 год

21 студзеня 1972 года нестару беларускага песеннага мастацтва, заслужанаму артысту СССР Рыгору Раманавічу Шырме споўнілася 80 год.

Натхнёны напевамі роднай Пружаншчыны, дзе ў сям'і простага селяніна ў вёсцы Шакуны ў 1892 годзе Р. Шырма прыйшоў на свет, ён усё сваё жыццё прысвяціў збіранню, апрацоўцы і папулярызацыі беларускай песеннай народнай творчасці. Збіраючы музычны народны нектар па сёлах і мястэчках былой Заходняй Беларусі, ён няраз быў пажаданым і любімым госцем Беласточчыны. Прайшоў тутэйшыя ваколіцы ад Аўгустова да Белавежы, каб папоўніць сваю скарбонку мелодый багаццем нашай народнай песні, якая потым так багата закрасавала ў яго чатырохтомным выданні «Беларускія народныя песні». Закаханы ў народным меласе, Р. Шырма не толькі браў ад народа, але і служыў яму сваім талентам і працай, арганізуючы і кіруючы народнымі беларускімі хорамі пры гуртках Таварыства беларускай школы, удзельнічаючы ва ўтварэнні ў міжваенны час у Вільні беларускай прагрэсіўнай газеты



«Наша воля», рэдагуючы зборнікі твораў заходнебеларускіх пісьменнікаў і дапамагаючы маладой інтэлігенцыі. Толькі пры савецкай уладзе вялікі талент Рыгора Шырмы змог разгарнуцца ва ўсёй сваёй красе і багацці. У 1940 годзе ён арганізуе Беларускі народны хор у Беластоку, які і даў пачатак вядомай ва ўсім свеце Капеле беларускай народнай песні. У цяжкія ваенныя гады капела служыла сваім натхнёным мастацтвам рабочым заводаў Расіі і Сібіры, канцэртавала на фронце перад салдатамі і афіцэрамі Першага беларускага фронту. У мірны пасляваенны час дзякуючы свайму высокаму выканаўчаму майстэрству яна стала ўзорам народнага мастацтва і канцэртамі па ўсёй зямной кулі расславіла беларускую народную песню.

Любоў і пашана да Рыгора Раманавіча Шырмы знайшла выраз у прызнанні яму ў 1946 годзе звання заслужанага дзеяча мастацтваў, у 1949 годзе прысваенні звання народнага артыста БССР і ў 1955 годзе — народнага артыста СССР.

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства накіравала дастойнаму юбіляру віншавальную тэлеграму з пажаданнямі добрага здароўя і многіх год творчай працы на ніве беларускай народнай песні.

**◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі**



## СВЕТ

### СССР АПЯРЭДЗІЎ ЗША

Сусветная прадукцыя сталі ў 1971 годзе складала 582.400 тыс. тон і ў параўнанні з папярэднім годам паменшылася на 2,5 прац. Гэтыя даныя паходзяць з японскіх крыніц. Гаворыцца, што зніжэнне сусветнай прадукцыі сталі ўпершыню наступіла ў 1958 г.

СССР апярэдзіў ЗША ў 1971 годзе, дасягаючы прадукцыі сталі 120 мільёнаў тон, у параўнанні з 115,9 мільёнамі тон у папярэднім годзе.

Прадукцыя сталі ў ЗША за 1971 год склала 112,2 мільёнаў тон, г.зн. паменшылася ў параўнанні з 1970 годам на 9,9 мільёнаў тон, а японская прадукцыя адпаведна паменшылася з 93,3 да 88,6 мільёнаў тон.

Зніжэнне прадукцыі сталі звязана з меншым запатрабаваннем з боку аўтамабільнай, будаўлянай і электрамашыннай прамысловасці. Зараз справа выглядае так, што першае месца ў прадукцыі сталі займае СССР, а наступныя ЗША, Японія і ФРГ.

Агульна беручы, прадукцыя сталі ў сацыялістычных краінах у 1971 годзе павялічылася на 5,4 прац., а ў капіталістычных краінах паменшылася на 5,8 прац.

### ГЭТА НЕПАКОІЦЬ

Арганізацыя па справе харчавання і сельскай гаспадаркі (ФАО) апублікавала рапарт, у якім гаворыцца, што калі ўтрымаецца дагэтуляшняя тэндэнцыя на рынку працы ў афрыканскіх краінах, дык у 1980 годзе тут будзе беспрацоўным кожны 15-ты рабочы. На агульны лік 160 мільёнаў рабочых меншбольш 11 мільёнаў было б беспрацоўнымі.

### ПЕРШАЕ ПАГАДНЕННЕ

Першае афіцыйнае пагадненне на ўзроўні ўрадаў было заключана паміж Індыяй і Народнай Рэспублікай Бангладэш. Паводле пагаднення, Індыя выдзяляе Бангладэш у якасці дара прадукты харчавання, а таксама нафтахімічныя прадукты, угнаенні, цэмент, сталь, вырабы са сталі — усяго на суму 250 мільёнаў рупій.

Акрамя таго, Індыя выдзеліць Бангладэш пазыку 5 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў у замежнай валюце.

### УЗБРОЙВАЮЦЬ

Паміж ЗША і Ізраілем існуе пагадненне, якое дае Ізраілю магчымасць выпускаць у сябе зброю амерыканскіх узораў. Гэта пагадненне, якое носіць назву «мемарандум узаемаразумення», прадугледжвае перадачу Тэль-Авіву амерыканскіх тэхнічных даных і тэхнічнага вопыту, неабходных для выпуску шэрагу відаў узбраення.

### БЕСПРАЦОЎНЫЯ

9 мільёнаў беспрацоўных — такое становішча на студзень 1972 года ў капіталістычных краінах. З гэтай колькасці каля 5 мільёнаў прыпадае на ЗША, адзін мільён — на Вялікабрытанію, 570 тысяч — на Японію, каля 500 тысяч — на ФРГ.

Згодна з прагнозамі друку, спад у прамысловай вытворчасці прывядзе да новага павелічэння беспрацоўя і ў 1972 годзе.

### «ЖЫГУЛІ» — УНІВЕРСАЛ

Выраблена першая партыя новага аўтамабіля «ВАЗ — 2102» (універсал). Новая машына адрозніваецца ад звычайных мадэляў большым кузавам, умяшчальным багажнікам.

А. К.



## БССР

### ГРОШЫ ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У бягучай пяцігодцы дзяржаўныя капіталаўкладанні ў сельскую гаспадарку Беларусі складуць 3,5 мільярда рублёў, што ў 1,2 раза больш, чым было накіравана ў гэту галіну за папярэднія 15 гадоў. Амаль у два разы ўзрастуць капіталаўкладанні калгасаў і міжкалгасных арганізацый.

Усё часцей у беларускіх вёсках будуць паяўляцца велізарныя, поўнасцю механізаваныя фабрыкі па вытворчасці свініны, ялавічыны, яек, птушынага мяса, малака на прамысловай аснове.

Вось з Гомеля паведамляюць, што ўвайшла ў строй першая чарга Навабеліцкай птушкафабрыкі, якая разлічана на 42 мільёны яек і каля 10-ці тысяч цэнтнераў птушынага мяса ў год. Поўнасцю прадпрыемства ўвойдзе ў строй у наступным годзе. Аднак ужо цяпер прадукуюць там яйкі 50 тысяч курэй-нясушак.

### КАЛГАСНІКІ ДОКШЫЦКАГА РАЁНА...

...што на Віцебшчыне, сёлета сабралі самы высокі ўраджай у вобласці — 27,8 цэнтнераў з гектара. За апошнія тры гады намалот збожжа ў гэтым раёне падвоіўся.

### IV ТОМ БЕЛСЭ

Як падае мінская газета «Звязда», выйшаў у свет IV том Беларускай савецкай энцыклапедыі, які ахоплівае тэрміны ад «Графіка» да «Зуйка». У артыкулах тома, абумоўленых алфавітным размяшчэннем тэрмінаў, раскрываецца багаты малюнак прыроды, гісторыі, народнай гаспадаркі, палітычнага жыцця і культуры беларускага народа, яго дружбы і брацкага супрацоўніцтва з іншымі народамі. Неабходна адзначыць, што гісторыя Беларусі даецца ў IV томе БелСэ ў цеснай і непарыўнай сувязі з гісторыяй усяго Савецкага Саюза. Звяртае на сябе ўвагу артыкул «Дагавор аб утварэнні СССР», публікацыя якога сугучна з падрыхтоўкай народаў Савецкага Саюза да 50-годдзя ўтварэння СССР.

### МІНСК — ВОЛГАГРАД

Чвэрць стагоддзя назад рабочыя праслаўленага (чатырыжды ардэнаносец!) Волгаградскага трактарнага завода дапамагалі мінчанам закласці фундамент беларускага трактарабудавання. З гэтых гадоў і вядзе сваю гісторыю дружба двух працоўных калектываў. Нядаўна вялікая група начальнікаў цэхаў і аддзелаў з Волгаграда амаль месяц часу вывучала тайны рытмічнай работы сваіх калег у Мінску.

### КАМСАМОЛЬСКІЯ ПРЭМІІ

Бюро ЦК ЛКСМ Беларусі прыняло наступную пастанову:

Устанавіць у 1972 годзе пяць прэмій Ленінскага камсамола Беларусі ў памерах 500 рублёў кожная за лепшы твор літаратуры і мастацтва аб камсамоле і моладзі рэспублікі.

### ДРУЖБА ЛІТАРАТУР

Росквіт беларускай савецкай літаратуры і яе ўзаемасувязі з літаратурамі іншых народаў — гэта асноўная тэма фільма, які рыхтавала ў Мінску Цэнтральнае тэлебачанне.

(вр)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

20 студзеня г.г. I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў калектыў фабрыкі цукровай прамысловасці імя 22 ліпеня ў Варшаве. Цікавіўся ён умовамі працы рабочых калектываў, арганізацыяй адпачынку пасля працы і г.д. Падчас сустрэчы Э. Герэк уручыў дзяржаўныя адзначэнні сямі шматгадовым рабочым. Варта адзначыць, што рабочы калектыў фабрыкі цукровай прамысловасці ў адказ на пісьмо Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада ў справе дадатковай прадукцыі на рынак абавязаўся даць звышпланавую прадукцыю на 20 мільёнаў злотых. Заканчваючы візіт, Э. Герэк паінфармаваў аб актуальных працах палітычнага Бюро ЦК ПАРП.

### НАРАДА Ў ЦК ПАРП

20 студзеня г.г. адбылася ў Варшаве пад кіраўніцтвам члена Палітычнага Бюро сакратара ЦК ПАРП Яна Шыдляка нарада сакратароў прапаганды ваяводскіх камітэтаў партыі, галоўных рэдактараў цэнтральных і ваяводскіх прэсавых партыйных органаў, а таксама агенцый, радыё і тэлебачання. Тэмай нарады былі бягучыя і перспектыўныя задачы партыйнай прапаганды і сродкаў масавай інфармацыі. З задачамі знаёміў сакратар ЦК ПАРП Ю. Лукашэвіч.

### КАРАЛЕЎСКІ ЗАМАК

Нядаўна на чарговым пасяджэнні прэзідыума замкавага камітэта пастаноўлена, што Каралеўскі замак мае быць адбудаваны і перададзены ў карыстанне ў тэрміне да 22 ліпеня 1974 года, на 30-тую гадавіну ўтварэння Народнай Польшчы. Дагэтуль на пабудову Каралеўскага замка сабрана 120 мільёнаў злотых з добраахвотных складчын. Пры яго адбудове працавала 27 тысяч асоб з Варшавы і з усёй краіны. Адбудове замка прысвяцілі яны 100 тысяч гадзін грамадскай працы.

### СВЯТКАВАННЕ 30-АЙ ГАДАВІНЫ ППР У ЦК ПАРП

21 студзеня г.г. у Цэнтральным Камітэце ПАРП адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная святкаванню 30-ай гадавіны Польскай рабочай партыі. Ва ўрачыстасці прымалі ўдзел: I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і члены сакратарыята ЦК ПАРП. На гэтай вечарыне з нагоды знамянальнай гадавіны ППР адзначалася група найбольш заслужаных партыйных дзеячоў. Пасля афіцыйнай часткі адбыўся канцэрт з удзелам варшаўскіх артыстаў.

### ВЫБАРЫ Ў СЕЙМ ПНР

Рада Дзяржавы пастанавіла правесці выбары ў Сейм ПНР у нядзелю 19 сакавіка гэтага года. Абшар краіны падзелены на 80 выбарчых раёнаў. Будзе выбрана 460 паслоў у Сейм ПНР, у тым ліку 17 асоб з Беласточчыны.

### ГАСПАДАРЧЫЯ ЗАДАЧЫ Ў 1972 ГОДЗЕ

21 студзеня г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім падсумавана выкананне мінулагодняга плана і бюджэта, а таксама намечаны важнейшыя задачы на 1972 год. Варта адзначыць, што наогул усе гаспадарчыя задачы мінулага года былі выкананы паспяхова.

### НОВЫ ПАДЗЕЛ

Паводле новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Польшчы, маем зараз 833 гарады і 4313 грамадаў.

(яц)

## ВАЯВОДСТВА

### ДАДАТКОВАЯ ПРАДУКЦЫЯ

Сакратарыят ЦК ПАРП і Прэзідыум урада выступілі да рабочых самакіраванняў з пісьмом, у якім просяць, каб пры абмяркоўванні планаў прадпрыемстваў на 1972 год, былі ініцыятарамі дадатковай прадукцыі, прызначанай на лепшае забеспячэнне рынку і на экспарт.

Заклік кіраўніцтва нашай партыі і ўрада сустрэўся з грамадзянскай і патрыятычнай паставай беластоцкіх калектываў. На шматлікіх прадпрыемствах абмяркоўваюцца магчымасці і спосабы, як даць звышпланавую прадукцыю. Адным з першых адазваўся на гэты заклік калектыў Фастаўскага камбіната. Ён вырашыў даць на рынак дадаткова 50 тыс. метраў тканіны і 15,5 тон пражы. Калектыў фабрыкі дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай дасць дадатковую прадукцыю вартасцю месячнага плана з папярэдняга года. Калектыў прадпрыемства імя Сяржана абавязаўся даць дадатковую прадукцыю на 8 млн. злотых. Ваяводскае прадпрыемства мясной прамысловасці дасць дадаткова на рынак 600 тон мяса, 100 тон каўбас, 50 тон кансерваў і на экспарт 250 тон кумпяка. Апрача таго, калектыў ВППМ вырашыў папрацаваць грамадскім чынам пры рамонце свайго клуба і сталоўкі, а таксама для свайго горада (усяго каля 10 тыс. гадзін).

### У ГОНАР ППР

Па ўсім ваяводстве далей адбываюцца ўрачыстыя сустрэчы ў гонар 30-годдзя ППР. У мінулым тыдні павятовыя акадэміі ў сувязі з гэтай гадавінай адбыліся ў Гайнаўцы, у Бельску, у Замброве, Моньках, на прамысловых прадпрыемствах нашага ваяводства, у школах. Многія ветэраны рабочага руху атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

### АГУЛЬНАКРАЁВАЯ НАРАДА

У Беластоку адбылося пасяджэнне ваяводскай камісіі працы грамадскім чынам. На пасяджэнні прысутнічаў прадстаўнік Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народу С. Бурлікоўскі. Абмяркоўвалася справа падрыхтоўкі ў Беластоку агульнакраёвай нарады, прысвечанай працы грамадскім чынам, якая адбудзецца ў нашым горадзе ў чэрвені гэтага года. У нарадзе будуць удзельнічаць прадстаўнікі цэнтральных улад, міністэрстваў, сакратары ВК ФАН і старшыні ваяводскіх камісій да спраў працы грамадскім чынам. Удзельнікі нарады наведаюць Гайнаўку, Белавежу і Аўгустоў.

### М/С «ГАЙНАЎКА»

Грузавы карабель м/с «Гайнаўка», паспяхова прайшоўшы свой пробны перыяд, адыходзіць у першы рэйс, у Англію. Напярэдадні выхаду ў рэйс адбылася ўрачыстасць падняцця сцягу, на якую былі запрошаны прадстаўнікі ГЗПД і хросная маці карабля Анна Ляшчынская.

### 2-36-54

На гэты нумар тэлефона можна званіць, каб атрымаць інфармацыю аб праезнасці дарог. Інфармацыйны пункт арганізавала Упраўленне публічных дарог. Калі стан праезнасці на дарогах будзе пагоршвацца, пункт будзе працаваць круглыя суткі.

(яч)




**Niedziela 30.I.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Użytkowanie i pielęgnowanie knura”. 8.40 „Przypominamy, radzimy”. 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.10 „Radar”. 10.20 „W kręgu mistrzów sztuki” — Albrecht Dürer — Triumf i Kres”. 10.55 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 12.35 PKF. 12.45 Dziennik. 13.00 Śpiewa Chór Chłopięcy pod dyr. J. Kurczewskiego. 13.30 „Przemiany”. 14.00 Dla dzieci: TV Festiwal Widowisk Lalkowych — Ogłoszenie werdyktu jury. Występy nagrodzonych aktorów lalkowych. 15.00 „Piosenka dla Ciebie”. 15.40 „Wszystko o jazzie” — teleturniej. 16.30 „Tajemnice minionych epok” („Klub Sześciu Kontynentów”). 17.10 „Żywoty pań sławnych” — „Smugi na tle mroku” (Orzeszkowa) „INNA TWARZ POMNIKA”. 18.15 „Południowe rytmy” („Melodie Wielkiego Ekranu”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nasza zwariowana rodzinka” — film fab. czechosł. 21.20 Magazyn sportowy. 21.50 IX Ogólnopolski Festiwal Piosenki i Piosenkarzy Studenckich.

**Poniedziałek 31.I.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.25 „Echo stadionu” — Przed Igrzyskami Olimpijskimi w Sapporo. 18.00 „W Beskidzie Śląskim” — film pol. 18.15 „Spacerkiem po kinach”. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: T. Capote — „Sceny z życia Holly Golightly” wg „Śniadania u Tiffany'ego”. 22.15 Recital fortepianowy T. Żmudzińskiego. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 1.II.**

10.00 „W okopach Stalingradu” — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) E. Ionesco — „Nosorożec”. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wychów prosiąt”. 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Kultura życia i bycia” — program wiejski. 17.10 „Oferty” 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Oblicze zbrodni” — rep. pt. „Pożar wymazał ślady” cz. I. 20.40 „W okopach Stalingradu” — film fab. radz. 22.20 Dziennik.

**Środa 2.II.**

8.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „W świecie atomów”. 9.25 „Catherine Howard” — film ang. („Sześć żon Henryka VIII”) odc. V. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Jeszcze raz o cieple”. 13.40 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender”, „Ludzie z różnych stron świata” — film. 17.40 „Za kierownicą”. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Niezwyciężony Stalingrad” — film dok. 18.50 „Centrum nowoczesności”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Oblicze zbrodni” — rep. pt. „Morderca nie przyznaje się do winy”. cz. II. 20.45 „Catherine Howard” — film ang. („Sześć żon Henryka VIII”) odc. V. 22.15 „Światowid”. 22.45 Dziennik.

**Czwartek 3.II.**

5.25 Otwarcie Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo. 8.15 Matematyka w szkole: „Matematyka w klasach matematyczno-fizycznych”. 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski — „Telewizja”. 12.45 Dla szkół: (kl. I—IV lic.) Język polski — „Ballada”. 13.50 i 14.35 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja zbioru zielonek na kiszonki” cz. I i II. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Sapporo. 18.20 PKF. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Oblicze zbrodni” — rep. pt. „Obrona Adama” cz. III. 20.45 „Plotka o milionie” — film fab. ang. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo.

**Piątek 4.II.**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Organizacja nawożenia w gromadzie”. 9.30 Kronika Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo. 10.00 „Plotka o milionie” — film fab. ang. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Sapporo. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Beczka Amontillado” — nowela film. TVP („Klasyka światowa”). 20.30 „Kraj”. 21.10 Film fabularny. 21.55 Dziennik. 22.10 Kronika Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo.

**Sobota 5.II.**

9.25 Kronika Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ryby”. 10.25 „Beczka Amontillado” — nowela film. TVP („Klasyka światowa”). 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Chile”. 12.45 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Główne prawidłowości ewolucji”. 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Sapporo. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Gallux show — wieczór 3 i 1/2” — Kabaret O. Lipińskiej. 21.20 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.40 „Królowa Margot” — film fab. franc.-wł. (od lat 18). 23.45 Kronika Zimowych Igrzysk Olimpijskich w Sapporo.




**Piątek, 28 stycznia**

11.45 Nowiny. 15.00 Program dni. 15.05 Dla szkół. 15.50 Panorama nowin. 16.10 Almanach TV. 17.00 Film dokumentalny. 18.00 Muzyka dla wszystkich. 19.00 Czas. 19.30 Teatr miniatur. 20.40 Karuzela.

**Sobota, 29 stycznia**

7.00 Program dnia. 8.20 Szkatułka muzyczna. 8.30 Przegląd międzynarodowy. 8.45 Białoruś — kraina pieśni. 9.45 Film fab. 11.20 Almanach. 12.20 Olimpiada. 12.50 Film animowany dla dzieci. 14.25 Program międzynarodowy. 14.55 Spotkania muzyczne. 16.00 Nowiny. 16.40 Panorama nowin. 16.55 Film animowany dla dzieci. 17.05 Europa. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 W eterze „Młodość”. 21.30 Transmisja z Wilna. 21.55 Nowiny.

**Niedziela, 30 stycznia**

7.00 Program dnia. 8.25 Kiosk muzyczny. 8.55 Spektakl dla uczniów. 12.10 W świecie słów i obrazów. 13.15 Nowiny. 13.20 Czterej pancerni i pies. 10 seria. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 W świecie zwierząt. 17.40 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Artysta ludowy A. Grybow. 21.00 Nowiny.



*Адкрыцця свайго дома культуры з нецярплівасцю чакаюць усе, асабліва ж маладое пакаленне віляноўцаў.*

*(Працяг са стар. 1)*




# Дом у Вілянове

валі такі прыгожы аб'ект, якога б не пасаромелася мястэчка, дом, дзе яны знойдуць месца на павышэнне сваіх ведаў, культурны адпачынак і развесяленне».

Звяртаючыся да прысутных віляноўцаў, кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку Збігнеў Дамброўскі падкрэсліў:

«Вы з'яўляецеся ўзорам грамады, якая зразумела ролю культуры ў сяле, патрапіла выйсці з свайго панадворка і ўнесці ўклад для агульнага дабра. Вілянова з'яўляецца прыкладам іншым сёлам у тым, як многа можна зрабіць згоднай супольнай працай».

I гэта прызнанне велічнасці грамадскага чыну знаходзіць выраз у дыпломах, якія з рук старшыні сямяціцкай павятовай рады атрымоўвае Вілянова, гурток БГКТ, кола ЗМВ, найбольш ахвярныя будаўнікі. У зале гучаць апладысменты, твары ўсіх раз'ясняюць усмешкі задавальнення, шчырага задавальнення з добра выкананай працы на карысць усяго сяла.

На новай сцэне выступаюць школьнікі, дарослыя самадзейнікі - салісты, квартэт. Гучаць польскія, беларускія, рускія песні, мільгаюць у народных танцах постаці юнакоў і дзяўчат. «Такія сабе клопаты» М. Клімасовай ставяць у гасцінным выступленні самадзейнікі з суседніх Мілейчыц.

Да позняй ночы гуляюць віляноўцы пад добры танцавальны аркестр павятовага дома культуры з Сямяціч. I ў патоках святла і сардэчных усмешках, здаецца, што гэта не снежная студзеньская ноч, а цёплая майская раніца. Так, гэта раніца культурнага жыцця сяла Вілянова, пагодная і многаабяцаючая раніца.

*М. Гайдук*

*Фота Цаф — Сянько*




*«Віляноўцы пабудавалі грамадскім чынам такі прыгожы аб'ект, якога б не пасаромелася мястэчка», — сцвердзіў старшыня ППРН у Сямяцічах У. Іванюк.*



*Старшыня У. Іванюк з вялікім прызнаннем паціскае рукі і ўручае дыпломы ахвярным будаўнікам.*



*Старшыні мясцовага кола ЗМВ — Яраславу Касперуку — актыўнаму будаўніку ўручае сярэбраную адзнаку ЗМВ Лідзія Тэрабун — член павятовага праўлення ЗМВ у Сямяцічах.*



*У прасторнай зале не было дзе і яблыку ўпасць.*

# Каб радзіла зямля

Кожны кавалачак зямлі павінен карміць — гэта асноўнае заданне сучаснай сельскагаспадарчай палітыкі. Нельга сказаць, што дагэтуль не прыдавалася ніякага значэння гэтай справе, аднак многа яшчэ ворнай зямлі ляжала ў нас аблогам, не прыносячы ніякай карысці нікому, а дзяржава вымушана кожны год імпартаваць збожжа. У асноўным гэтая зямля належыць дзяржаўнаму фонду зямлі (ПФЗ) і гаспадарам, якія не могуць (па старасці) або не хочуць яе апрацоўваць.

Загаспадаранне гэтай зямлі ў некаторых раёнах Беластоцкага ваяводства — справа складаная. Разгледзім гэта на прыкладзе Бельшчыны.

## ЯК ГАСПАДАРЫЦЬ?

Адным са спосабаў загаспадарвання ПФЗ з'яўляецца перадача гэтай зямлі ў карыстанне сельскагаспадарчым гурткам і МБМ. У Бельскім налічваецца каля 3.700 гектараў дзяржаўнай зямлі. Больш 300 гектараў прыняў скарб дзяржавы толькі ў мінулым годзе.

Памятайма, што наш гаспадар, якім бы ён не быў актывістам сельгасгуртка ці МБМ, у першую чаргу будзе збіраць плён са свайго ўласнага поля, а потым пачне цікавіцца тым, што дзеецца на полі сельгасгуртка. I гэта зразумела. Перад дзяржавай гаспадар у першую чаргу адказвае за сваё ўласнае поле. Таму на супольным часта стаіць пераспелае збожжа.

Ёсць і іншыя ўвагі.

Усеагульна вядома, што кожнае поле патрабуе натуральнага гною. Сельгасгурткі, ані МБМ гною не маюць. А вядома, што зямля, якая не атрымае адпаведнай порцыі гною і на якой будуць прымяняцца выключна мінеральныя ўгнаенні, ялавее. Да такога «вандалізму» дапусціць нельга.

Дык як гаспадарыць?

## ГАСПАДАРЫЦЬ ПА-НОВАМУ

Справа як у адным, так і ў другім выпадку не бязвыхадная. Каб арганізаваць прадукцыю на фондаўскай зямлі, сельгасгурткі павінны мець штатных кіраўнікоў прадукцыі і аграномаў. Гэтыя людзі непасрэдна адказвалі б за вырошчванне і ўборку ўраджаю.

Стварэнне штатаў у сельгасгуртках было б згоднае з існуючымі законамі ў ПГР. Тут, калі загаспадарваецца 200 га ўгоддзяў, павінен быць штатны арганізатар прадукцыі. Выйшла б гэта вельмі на карысць ураджаю і самой ідэі загаспадарвання зямлі сельгасгурткамі.

Цяжэйшай была б справа з гноем. Але і гэтую справу можна ўладзіць, напрыклад, дзякуючы ўвядзенню спецыялізацыі сельгасгурткоў у галіне жывёлагадоўлі або куплі гною ў гаспадароў, спецыялізуючыхся ў жывёлагадоўлі, якія маюць надпрадукцыю яго.

I яшчэ адна справа. Трэба звярнуць большую ўвагу на сельгасгурткі і МБМ-ы ў раёне, дзе выступае многа дзяржаўнага фонду зямлі. Умацаваць іх, каб можна было без ніякіх сумненняў аддаць у загаспадаранне дзяржаўную зямлю. А зямлі гэтай будзе прыбываць.

У даны момант сельгасгурткі і МБМ карыстаюцца больш чым 200 га ўгоддзяў, перададзенай ім зямлі. Перадача адбываецца надалей, але ўсюды пры гэтым нельга не ўлічваць працы сельгасгуртка ці МБМ, якая б гарантавала добрую апрацоўку зямлі. Інакш гаворачы, зямлю можна аддаць у карыстанне толькі арганізацыйна і эканамічна моцным сельгасгурткам. Так гэтыя справы пастаўлены VI з'ездам партыі.

Але адчуваюцца цяжкасці не толькі пры перадачы зямлі арганізацыям сялянскага самакіравання. Справа заключаецца ва ўласцівым загаспадаранні яе, так, каб даказвала яно, што калектыўнае гаспадаранне прыносіць добрыя вынікі. На жаль, яшчэ зачаста на полі, засеяным сельгасгуртком, стаіць пераспелае збожжа, замярзаючая бульба. Прыносіць гэта страты і матэрыяльныя, і маральныя.

I нельга сказаць, што вінавата тут ідэя перадачы дзяржаўнай зямлі сельгасгурткам або гаспадары, члены арганізацыі.

*А. Карпюк*

# Падатковыя ільготы для сялян

**ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ**

Згодна з законам з 26.X.1971 г. аб пазямельным падатку Рада Міністраў выдала распараджэнне з 22.XI. 1971 г., у якім, між іншым, прадбачваюцца палёгкі для сялян многадзетных, ваеннаслужачых, трывала няздольных да працы, а таксама ў выпадку стыхійных бедстваў.

Ільготы многадзетным прыслугоўваюць у тым выпадку, калі даходнасць гаспадаркі меншая, чым 34.650 зл. Сялянам, якія маюць пяцёра або шасцёра дзяцей, прыслугоўвае абніжэнне падатку на 25%. Пры сямі або васьмі дзецях прыслугоўвае ільгота 50%. Калі ж падатнік мае больш васьмі дзяцей, ён звальняецца поўнасцю ад падатку.

За дзяцей лічацца таксама дзеці ўсыноўленыя і пасербы. Ільготы прыслугоўваюць на дзяцей да 15 год, якія не маюць уласных даходаў, а калі вучацца, то да 24 год.

Калі падатнікам з'яўляецца жанчына, якая сама вядзе гаспадарку, то 25% абніжкі падатку прымяняецца пры трох і чатырох дзецях, 50% — калі мае на ўтрыманні пяцёра або шасцёра дзяцей, поўнасцю звальняецца ад падатку, калі мае на ўтрыманні больш шасці дзяцей.

Сялянам, якія праходзяць ваенную службу, падатковыя ільготы прыслугоўваюць у выпадку, калі на гаспадарцы не засталося ніводнага здольнага да працы члена сям'і: 50%, калі даходнасць гаспадаркі ніжэй чым 32.000 зл., 30% пры даходнасці ад 32.000 да 61.200 зл. і 20% — калі даходнасць звыш 61.200 зл. Калі ж на гаспадарцы застаецца адзін здольны да працы, ільготы прыслугоўваюць у размеры 30% пры даходнасці да 32.000 зл., 20% — пры даходнасці ад 32.000 да 61.200 зл. і 10% — калі даходнасць аблічана на больш чым 61.200 зл.

Ільготы прызнаюцца не толькі тады, калі на ваеннай службе знаходзіцца сам гаспадар, але і ў тым выпадку, калі пакліканы ў войска член сям'і, які фактычна вёў гаспадарку. Напрыклад, гаспадаром з'яўляецца стары бацька, а гаспадарку фактычна вядзе сын. Ільготы прыслугоўваюць, калі сын будзе прызваны ў армію.

Ільготы прыслугоўваюць за год, у якім абавязаны да падатку служыць у войску і калі ваенная служба працягваецца прынамсі 9 месяцаў ад часу прызвання ў войска.

Трывала няздольным да працы з прычыны інвалідства або працяглай хваробы, а таксама ўдовам, якія самі вядуць гаспадарку і маюць на ўтрыманні дзяцей ніжэй 15 год, прызнаюцца ільготы пазямельнага падатку ў 40%, калі аснова ападаткавання не перавышае 7.700 зл., а 20% — калі даходнасць ад 7.700 зл. да 13.200 зл. Ільгота прызнаецца, калі ў сям'і няма здольных да працы.

У выпадку стыхійных няшчасцяў, якія выклікаюць значныя шкоды ў будынках, жывёле, збожжы і г.д., а падатнік не атрымаў страхоўкі, прымяняюцца падатковыя ільготы да 50%, а ў выключна абгрунтаваных выпадках можа наступіць поўнае звальненне ад пазямельнага падатку.

Калі надзвычайныя акалічнасці прычыняцца да значнага аслаблення прадукцыйнай здольнасці падатніка, улады могуць па яго просьбе адтэрмінаваць сплату падатку або разлажыць падатак на раты. У выключна абгрунтаваных выпадках падатак можа быць часткова або поўнасцю зняты.

*В. Склубоўскі*

БЕЛАСТОК У 1971—1975 ГАДАХ



*Вуліца Весялоўскага.*

*Фота Цаф — Сянько*

# У нашай метраполіі

Кожны нумар нашага штотыднёвіка прыносіць звесткі аб гарадах і вёсках ваяводства. Радзей пішам мы пра нашу ваяводскую метраполію. Таму сёння хочам праінфармаваць нашых чытачоў аб горадзе, а перш за ўсё аб так званай праграме добраўпарадкавання горада Беластока ў 1971—1975 гадах.

Добраўпарадкаванне горада — паняцце не новае. Аднак становіцца яно пільнай патрэбай ва ўмовах хутка развіваючыхся гарадоў, а да такіх, безумоўна, залічваецца Беласток. Упарадкаванне горада — гэта новыя вуліцы, новыя кватэры, паркі, стадыёны і т.д., а таксама — гэта чысціня вуліц, тратуараў, вокан і дамоў. Мэта ўпарадкавання горада — гэта паправа бытавых умоў жыхароў, павышэнне санітарнага стану і эстэтыкі.

Шматлікія працы скаардынаваны з рэалізацыяй паасобных інвестыцый. Нашу інфармацыю пачынаем ад вул. Звыцbackства. Гэта артэрыя з вялікім рухам на Варшаву. Перабудову вуліцы запланавана закончыць у 1973 годзе, а кошт гэтай перабудовы — 29.589 тыс. зл. У праграме ёсць прапанова адносна адаптацыі будынку, які знаходзіцца насупраць былой рашарні на Высокім Сточку, на рэстаран. Прадугледжваецца таксама пабудова парку для квартала Антонюк. Пры вуліцы Звыцbackства будзе закончана пабудова Дома вадзіцеля (шафёра) і аб'екта «Мотазбыту». Спулдзельня «Захэнта» распачала будову чатырох 11-ціпавярховых жыллёвых будынкаў.

Прадбачваецца правесці капітальны рамонт галі «Ягелёніі», а таксама пабудова плошчы мітынгаў між вуліцамі Юравецкай, Сянкевіча і Алеяй 1 Мая. Гэтую інвестыцыю прадбачваецца закончыць у 1973 годзе. Такім чынам, знікне балота, на якім зараз затрымліваюцца аўтобусы ПКС.

Пры Кавалерыйскай будзе пабудаваны маладзёжны гарадок дарожнага руху. Побач з нядаўна аддадзеным у карыстанне стадыёнам «Гвардыя» будуць комплексна загаспадараны і ўпарадкаваны спартыўна - рэкрэацыйныя пляцоўкі. Пабудаваць амфітэатр прадугледжана да 1973 года. Будзе ён знаходзіцца на ўзгорку Магдалены. У раёне вуліц Весялоўскага і Дзяржынскага будзе пабудаваны вялікі ўніверсальны магазін і паслугова-гандлёвы цэнтр.

Крыху далей пры вул. Сянкевіча прадугледжваецца перанесці ЛОК да іншых памяшканняў, а тыя, што застануцца, разабраць і ўпарадкаваць пляц. Адна з большых заправачных станцый «ЦПН» пры вуліцы Сянкевіча таксама будзе перанесена ў іншае месца.

Прадбачваецца адаптацыя ваданапорнай вежы пры вул. Высоцкага для турыстычна-адпачынкавых паслуг. Побач з гэтай вежай будзе месца для адпачынку жыхароў горада.

Апрача ўпарадкавання вуліц і кварталаў, што знаходзяцца ля вуліцы Міцкевіча, прадбачана пабудова яшчэ аднаго купальнага басейна. У раёне рэстарана «Рамантычнага» будзе ён будавацца грамадскім чынам. Крыты купальны басейн пабудуецца пры Алеі 1-га Мая.

Шматлікія працы будуць весціся ў раёне вуліц Кавалерыйскай, Вейскай, Мазавецкай і Звежынецкай.

У цякучай пяцігодцы распачнецца пабудова адміністрацыйнага цэнтра — будынак «Мястапраекту» на Млыновай вуліцы і будынак гарадскога аддзялення міліцыі пры вуліцы Бэма.

У бліжэйшыя гады будзе весціся скаардынаваная праца ў раёне між вуліцамі Вейскай, Свярковай і Звежынецкай, дзе прадбачана пабудова комплексу будынкаў Вышэйшай інжынерскай школы і філіялу Варшаўскага універсітэта. Пры вуліцы Свярковай будзе таксама пабудавана радыёвяшчальная станцыя «Польскае радыё і тэлевізія».

Апрача вышэй спамянутых, гарадскія ўлады запланавалі загаспадарыць камунальны лес «Звежынец», пераносячы адсюль заапарк у іншае, больш зручнае месца.

Гэта толькі некаторыя прыклады добраўпарадкавання нашага прыгожага горада Беластока.

*А.К.*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

6 САЛАТАЎ З КІСЛАЙ КАПУСТЫ.

Усім вядома, што кіслая капуста зімой — адзін з найбольш багатых вітамінамі від агародніны. Ёсць яна ў кожнай сялянскай хаце, а гарадскія гаспадыні могуць яе купіць у кожным магазіне з гароднінай ад восені да вясны. Дык раім яе шырэй выкарыстоўваць у штодзённым рацыёне, стараючыся за кожным разам неяк яе ўразмаіціць, каб не прыелася. І яшчэ: сок з кіслай капусты даюць нават грудным дзецям.

1. Узяць: 30 дэкаў кіслай капусты, 1 малую цыбульку, 2 яблыкі, крыху алею, цукру, зялёнай пятрушкі.

Да капусты дадаць цыбулю, нарэзаную пер'ямі, сцертыя разам са скуркай на бурачанай тарцы яблыкі, вымяшаць з цукрам і алеем, пасыпаць вельмі дробна нарэзанай зялёнай пятрушкай.

2. Узяць: 30 дэкаў кіслай капусты, 2 вялікія, здаровыя морквіны, 1 яблыка, крыху журавіннага соку, лыжку цукру.

Моркву чысцім, сціраем на дробнай гароднінная тарцы (толькі не на бульбянай, бо атрымаецца каша!). Яблыка сцерці на бурачанай тарцы. Усё гэта змяшаць з капустай, пасыпаць цукрам, дадаць крыху соку з журавін і яшчэ раз вымяшаць.

3. Бярэм: 30 дэкаў кіслай капусты, 2 вараныя буракі, 1 цыбульку, соль, перац, крыху алею.

Звараныя і абабраныя буракі сціраем на буйнай тарцы, дадаем да кіслай капусты. Дадаем таксама дробна нарэзаную цыбульку, соль, перац і алей.

4. Узяць: 30 дэкаў капусты, 1 невялікі вараны селер, 1 кіслы агурок, 1 цыбульку, соль, перац, алей.

Абабраны вараны селер і кіслы агурок без скуркі сцерці на бурачанай тарцы. Цыбулю нарэзаць дробненькімі «пер'ямі». Усё гэта змяшаць з капустай, заправіць соллю і перцам так, каб салат атрымаўся востры, дадаць алею.

5. Бярэм: 30 дэкаў капусты, 1 маленькі карэньчык хрэну, 1 яблыка, некалькі заквашаных маленькіх бурачкоў, соль, перац, цукар, алей.

Крыху вымачаны, абабраны і сцерты на бульбянай тарцы хрэн, сцертае на бурачанай тарцы яблыка і нарэзаныя дробнымі палосачкамі буракі змешваем з капустай, дадаем солі, перцу і алею.

6. Узяць: 30 дэкаў капусты, 1 вялікую пору, 1 яблыка, мнагавата дробна нарэзанай зелені, соус «вінегрэт».

Да кіслай капусты дадаць вельмі старанна памытыя і нарэзаныя тоненькімі кружочкамі поры, яблыка, сцертае на буйнай тарцы і шмат дробна нарэзанай зеляніны. Усё гэта старанна вымяшаць з соусам «вінегрэт», які падрыхтоўваем наступным чынам: 2 зубкі часнаку дробненька сячэм, дадаем крыху солі і расціраем, дадаючы свежага алею. У канцы дадаем крыху лімоннага соку.

Рабіце штодзень салаты: яны не толькі дапамагаюць прысвойванню падставовай ежы, яны ж з'яўляюцца крыніцай здароўя, даючы арганізму неабходныя вітаміны.

*Гаспадыня*

ЯЎГЕН БЕРАЗНЯК

# „Я"-„ГОЛАС"

## МАЁР ВІХР РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ І СВАЮ РАЗВЕДКУ

Без здарэнняў выбраўся на дарогу. Да Кашува даехаў на спадарожным вазку. Гаспадар яго, пажылы селянін, ні пра што не распытваў, ад грошай адмовіўся. З расказу я зразумеў: у Кашуве стараста — сабака, без яго дазволу на начлег могуць і не пусціць. Вырашыў не рызыкаваць. Абыдземся як-небудзь. Пах свежаскошанай травы прывёў мяне на луг. Закапаўся ў сена.

На світанні пакінуў свой «нумар-люкс» і пакрочыў да Рыбні на ўмоўленую яўку. Явачную кватэру для нашай групы рыхтавала Комар, радыстка з групы «Львоў». Напярэдадні вылету нам паведамілі прозвішча, адрас. Гаспадар яўкі, мяркуючы па данясеннях Комар, чалавек надзейны, правераны, сакратар мясцовай партыйнай ячэйкі. На дом № 448 я наткнуўся нечакана на Верхняй вуліцы. Па праўдзе кажучы, мне проста пашанцавала. Знайсці дом у Рыбні па нумары не так лёгка. Але, паўтараю, абышлося без непажаданых роспытаў. Вароты невялікай сядзібы былі шырока расчынены. У двары я ўбачыў пажылога селяніна ў камізэльцы, у капелюшы з чорнай стужкай. Пацягваючы люльку, ён глядзеў на мяне пільна, спакойна. Не без хвалявання я сказаў пароль:

— Ці мае пан для продажу слівы?

Замест водгуку гаспадар сказаў:

— Пойдзем у хату.

Малік пасадзіў мяне за стол:

— Сліў, паночку, ужо няма. Ёсць яблыкі. Давайце яшчэ раз знаёміцца. Гэтыя сцены надзейныя. Тут нас ніхто не пачуе.

— Капітан Міхайлаў.

— Станіслаў Малік, таварыш.

Станіслаў узрадаваўся мне, як роднаму сыну. Сказаў, што мяне даўно чакаюць, непакояцца. Накарміў снеданнем. Затым агледзеў мяне з ног да галавы, незадаволена паморшчыўся і, ні слова не кажучы, пайшоў у суседні пакой. Вярнуўся адтуль з кучай адзення. Я ахвотна расстаўся са сваім цёмна-сінім касцюмам. І вось мы сталі побач, у падраных штанах. На мне, як і на Маліку, камізэлька, капялюш з чорнай стужкай.

— Хто-небудзь прыходзіў ужо?

— Паненка адна. Файна паненка. Ольця Савецка знайшла ёй схрон.

— Хто яшчэ?

— Ніхт, таварыш капітан.

У «паненцы» няцяжка было пазнаць Грушу.

Значыць, Граза яшчэ не з'явіўся.

Я адзін на гарышчы, заваленым сенам, збруяй, markознай старызнай, Станіслаў па маёй просьбе накіраваўся да Ольгі Савецкай.

Якая ты, Комар? Што мне пра цябе вядома? Ніжэй сярэдняга росту, вочы карыя, камсамолка. У варожым тыле амаль чатыры месяцы. І ўвесь гэты час падтрымлівае сувязь, рэгулярна перадае важнейшую інфармацыю. «Смелая, баявая дзяўчына, — коратка атэставаў яе Паўлаў. — З групы засталася адна. Будзе працаваць з вамі».

...Спачатку над лесвіцай паказаліся вочы. Не вочы — цуда. Сустрэліся з маімі. Затым вынырнула ўся — у фартушку, старэнькай сукенцы, босыя ногі. У школе я, напэўна, прыняў бы Ольгу за вучаніцу пятага—шостага класа. Глядзеў на яе, і неяк не верылася, не ўкладвалася ў галаве, што гэта дзяўчынка-птушачка і ёсць бясстрашны Комар.

— Добры дзень, таварыш капітан. Са шчаслівым прыбыццём.

— Добры дзень, Камарык.

Кінулася да мяне. І тут я адчуў, што вочы нашай гераіні зусім не на сухім месцы.

— Гэта нічога, гэта я на радасцях, таварыш камандзір.

Ольга пацвердзіла: Груша з'явілася на шосты дзень. Жывая, здаровая, сядзіць у Татуся. Чакае, не дачакаецца дзядзькі Васі.

Татусь — так ласкава называюць Міхаіла Урубля, батрака, ён таксама чакае нас. Для «пана капітана» ўжо абсталяваў у сваім свірне патайны пакойчык.

Адкладаю ўсе пытанні на вечар. Спускаемся па лесвіцы.

— Вам будзе добра ва Урубляў. Гэта такія людзі, такія людзі! Татусь, Рузя, Стэфа. За савецкага чалавека ўсё аддадуць. І жыцця не пашкадуюць.

Мне запомніўся першы дзень ва Урубляў. Міхал, лысы, цыбаты, камізэлька вісела на ім, як на вешалцы, не мог нарадавацца за сваю «дзяўчынку»: усё адна ды адна, а цяпер у Ольці і сяброўка, і пан капітан.

Мне тут падабалася. І мілыя гаспадары, і тое, што дом на водшыбе. А схрон сапраўды аказаўся выдатны. Зойдзеш у свіран — сена да самага даху. Трэба разваліць усё сена, каб дабрацца да патайнога пакойчыка. Уваход і выхад — у бок лесу. Дошкі змазаны тлушчам, лёгка, бясшумна падымаюцца і апускаюцца. Ля выхаду — лаўка: канспірацыя. У адным доме і радыёкватэра, і станцыя для групы. Зручна, але... небяспечна. Страшэнна небяспечна. Ці разумее стары Міхал, што чакае яго самога, дачок у выпадку правалу? Я спытаў аб гэтым і тут жа дадаў, што ў бліжэйшыя дні пастараемся падабраць іншую кватэру. Татусь пакрыўдзіўся: «Ці ж Ольцы ў нас дрэнна? Ці ж савецкія мне ўжо не давяраюць? Я ўсё



— Ало, таксі!

### ТЭХНІЧНЫЯ ПАТРАБАВАННІ

Бацька прынёс дамоў новы тэлевізар. Сынок убачыў, што на ўпакоўцы — бакал ды і пытае:

— А чаго гэта, тату, на тэлевізары чарка намалёвана?

— А гэта, сыну, напэўна, нагадванне пакупніку, каб не забыў тэлевізар абмыць...

*З венгерскага*

### ПРА ВЕШАЛКУ

Калі дачка мне вешалку прыколе —
Трымаецца яна дні два — не болей.
Калі ж мне жонка прышывае —
На тыдзень гэтай вешалкі хапае.
Калі ж за вешалку бярэцца маці —
То будзе цэлы год яна трымацца.

*Калман Ковач*



*Без слоў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Г. і В. Фірсовіч з Беластока зміншчаем песню:*

## Вечерний звон

*Вечерний звон, вечерний звон!*
*Как много дум наводит он!*

*О юных днях в краю родном,*
*Где я любил, где отчий дом.*

*И как я, с ним навек простясь,*
*Там слушал звон в последний раз!*

*И многих нет теперь в живых,*
*Тогда веселых, молодых!*

*Вечерний звон, вечерний звон!*
*Как много дум наводит он!*

*Гумар з барадою*

### ГЛУХІ

Вельмі багаты і глухі дзед раптам пачаў чуць. Знаёмы пытае яго:

— Вашы сваякі, напэўна, цяпер вельмі шчаслівыя?

— Але ж ніхто ў хаце не ведае, што я чую, — адказвае багацей.

— Чаму?

— А я сяджу, як раней, і толькі слухаю, што пра мяне гавораць. І я ўжо двойчы мяняў завяшчанне.

## НЕ РАЗАБРАЎШЫСЯ

Дзяміл Валасюк абедаў і чакаў, калі пазвоніць яго начальнік.

Дзяміл з апетытам сёрбаў боршч. Раптам зазваніў тэлефон. Дзяміл выскачыў з-за стала, падняў тэлефонную трубку.

— Патап Іванавіч... — як мага лагадней адгукнуўся Дзяміл.

— Домакіраўніцтва? — чулася з трубкі. — Мне трэба...

— Не! — ветліва адказаў Дзяміл. Паклаў трубку і пайшоў да стала.

Зноў званок.

Дзяміл ледзьве праглынуў недажаванае і, папярхаючыся, схапіў трубку:

— Патап Іванавіч, я слухаю...

— Домакіраўніцтва? Мне хутчэй трэба слесара, трубу прарвала, кватэру залівае...

— Паўтараю, гэта не домакіраўніцтва, — адказаў Дзяміл і паклаў трубку.

Вярнуўшыся да стала і яшчэ не сеўшы ў крэсла, ён падчапіў на відэлец кавалак мяса. А тут зноў зазваніў тэлефон.

Адным скокам Дзяміл апынуўся каля тэлефона.

— Патап Іванавіч, я слухаю...

— Домакіраўніцтва, слесара хутчэй, у кватэры патоп...

Дзяміл не даслухаў. Паклаў трубку і накіраваўся да стала. Тэлефонны званок спыніў яго на паўдарозе.

Валасюка скаланула ад злосці.

— От прыстаў, нягоднік, — сцяўшы зубы, прабурчэў ён.

Валасюк на нейкі момант забыўся, што павінен званіць яго начальнік, і закрычаў у трубку:

— Нахабнік ты! Прыліп, як п'яўка да тэлефона!

Збянтэжаны Патап Іванавіч — на гэты раз званіў ён — вінавата спытаў:

— А хіба гэта не кватэра Дзяміда Валасюка?

Дзямід, пазнаўшы голас свайго начальніка, аж прысеў, а язык яго як хто вяроўкамі скруціў.

— Па-ата-ап Іванавіч... Я... Я... слухаю, — пачаў заікацца Дзямід.

*Зміцер Бяспалы*

### ШВЕЦЫЯ

На вечарыне Андэрсан расхваставаўся сваім уменнем рамантаваць гадзіннікі. Яго жонка пацвердзіла:

— Гэта праўда, ён часта рамантуе гадзіннікі. Ды як ён адрамантаваў гадзіннік з зязюляй у нашага суседа! Пасля яго рамонту зязюля пачала выскакваць і пытаць, якая гадзіна.

### ПАГЛЫБІЎ

Размова на кінастудыі:

— Ну, а цяпер вы паглыбілі свой сцэнарый?

— Вядома! Я перанёс дзеі на дно мора.







**Талавапомка**





Устанавіце ўзаемасувязь паміж лічбамі ў кожнай фігуры і ўпішыце бракуючыя лічбы.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 26 трохвугольнікаў.*

### СПАРТСМЕН

— Мой брат на школьных спаборніцтвах прабег два кіламетры за мінуту.

— Не хлусі! Гэта ж лепш, чым сусветны рэкорд!

— Але брат ведае кароткую дарогу.

### АМЕРЫКА

Псіхіятр скардзіўся калегу:

— Не ведаю, што рабіць: адзін пацыент увесь час прапануе мне купіць у яго Ніягарскі вадапад.

— Вазьміце і купіце!

— Не магу, надта дорага просіць.

### ЛАТАРЭЯ

Жонка купіла латарэйны білет.

— Калі я выйграю, — сказала яна мужу, — дык куплю сабе новае паліто.

— А калі не выйграеш?

— Тады ты мне яго купіш.

### ФРАНЦЫЯ

Камісар французскай паліцыі запаўняе пратакол на затрыманую зладзейку. Будучы вялікім паклоннікам жаночай прыгажосці, у рубрыцы «вочы» піша: «Чорныя, палаючыя, вымоўныя, поўныя страсці і просьбы. Аднаго не хапае».

### АНГЛІЯ

Англійскі лорд пасля караблекрушэння апынуўся на бязлюднай выспе. Ён пабудаваў тры хаціны. Праз нейкі час яго ўбачылі з другога карабля. Адзін з высадзіўшыхся матросаў спытаў:

— Сэр Джон, а навошта вам тры хаціны?

— Вы ведаеце, у адной я жыву, другая — клуб, які я наведваю, а трэцяя — клуб, які я ігнарырую.

*Байкі*

### НАВІНА

Барбос кажа авечкам:

— Чулі навіну? Казёл знёс яйка!

— Не можа быць!

— Ды гэта ж Слон сказаў.

— Няўжо? Тады Казёл сапраўды нясецца.

### УСЁ Ў МІНУЛЫМ

Зношаныя пальчаткі ўздыхалі на сметніку:

— Калісьці і нас насілі на руках.

### СПАХАПІЛАСЯ

Зязюля звярнулася да буславай сям'і:

— Прытуліце, калі ласка, старэнькую. Адмаўляюцца дзеці ад мяне.

— А як ты, бабуля, гадавала іх?

— Не памятаю, даражэнькія, не памятаю.

### КРЫЎДА

Сапсаваны штопар выкінулі ў каморку. Скардзіўся:

— Завошта такая няміласць? Ды я ж не лез у бутэльку!



*Рыбак-рацыяналізатар.*



— *Усміхніцеся, калі ласка.*
— *А я ўжо даўно ўсміхаюся!*

### КАБ СВЯТА БЫЛО...

*А тосты ўсё растуць, іх шчодрасць*
*не змяншаецца...*
*І крыўдна пазіраць, што побач за сталом*
*Увішны дармаед з відэльцам завіхаецца*
*І недзе ж у душы з нас, дурняў, насміхаецца:*
*«Вы сейце, надрывайцеся, а мы ўжо*
*спажывём...»*

*Не сеюць і не жнуць... Якая ж трэба сілішча,*
*Каб іх усіх адразу — мятлою з-за стала,*
*Каб свята было нам, а ім было судзілішча,*
*Каб радасць непадкупная і толькі нам была.*

*Алесь Бачыла*

### У ШКОЛЕ

Хлопчык горка плача ў школьным калідоры. Класны выхавацель пытае:

— Што здарылася? Чаму ты плачаш?

— Настаўнік матэматыкі скаціўся з лесвіцы.

— Не плач, з ім нічога не здарылася, ён здаровы.

— Ды як жа не плакаць! Усе вучні бачылі, як ён каціўся, а я ў гэты час быў на панадворку.

### У ТЭАТРЫ

Кампазітар запрасіў прыяцеля драматурга на прэм'еру сваёй оперы. Драматург, слухаючы оперу, увесь час чамусьці ўсміхаўся.

Усхваляваны кампазітар крыкнуў:

— Над чым ты смяешся? Ты бачыў, каб я хоць раз усміхнуўся на тваіх камедыях?



*Усё людское нам не чужое.*

### У ХАЦЕ

Жонка мужу:

— Да чаго ж ты лянівы стаў — нічога не хочаш рабіць дома.

— Затое ў кааператыве добра працую.

— Адкуль гэта відаць?

— А ці ж ты не чула, як па радыё перадавалі: «У кааператыве «Будучыня» добра працуюць Дзмітрук, Пятручук, Кавалеўскі ды іншыя».

— Ну дык і што? Твайго ж прозвішча не назвалі.

— Сказала! Я ж вось там, дзе «ды іншыя».





### КОЛЬКІ ШАРЫКАЎ РАЗБІТА?

Не паспеў тэлеграф прынесці паведамленне пра тое, што два італьянскія студэнты Ф. Біфолі і А. Рыпалёці ўстанавілі сусветны рэкорд працягласці гульні ў настольны тэніс, згуляўшы 25-гадзінны матч з лікам 5230—5230 і разбіўшы пры гэтым 20 шарыкаў, як прыйшла яшчэ адна інфармацыя. Навучэнцы амерыканскага каледжа гарадка Мадысан у штаце Індыяна гулялі беспярыпынна 102 гадзіны, пасля чаго лік стаў 18641:18479 у карысць старшакурснікаў. Ранейшы «камандны рэкорд», які належаў ігракам гэтага ж каледжа, перавышан на паўтары гадзіны. Колькі было разбіта шарыкаў, не паведамляецца... Пагоня за «рэкордамі» працягваецца.

### ДЗІКУН

На дабрачынным абедзе сустрэліся прадстаўнікі алімпійскіх камітэтаў ФРГ і адной з афрыканскіх краін, якая стала на шлях развіцця. Немец дэманстраваў свецкія манеры, але і так не здолеў скрыць гідлівую міну. Пакаштаваўшы стравы, ён звярнуўся да чарнаскурага суседа: «Ам-ам гут?» Афрыканец сцвярджальна кіўнуў. Пасля шампанскага немец зноў ветліва пацікавіўся: «Буль-буль гут?» Сусед зноў кіўнуў.

Потым афрыканцу далі слова. Ён сказаў выдатную прамову на выдатнай нямецкай мове. Прамову, перасыпаную цытатамі з Гётэ і Гейнэ. Пасля ён схіліўся да здзіўленага суседа з Алімпійскага камітэта ФРГ: «Ляля гут?»





*Сем разоў адмерай, а адрэж так, як скажа начальнік.*